**ПАЦЫЕНТАЎ — НА ХОЛАД!**
*Медыкі Бярозы абследуюць пацыентаў у перасовачным флюарографе* 2

**"ЗА ЎРАТАВАННЕ МЕМАРЫЯЛА КУРАПАТЫ"**
*Грамадская ініцыятыва просіць дасылаць даведкі аб рэабілітацыі* 3

**"НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА"**
*Пяць гадоў у Івацэвічах функцыяніруе грэка-каталіцкая царква* 5



# ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН-КОБРЫН

выдаецца са студзеня 1997 года 21 — 27 снежня 2001 г. №51 (314)

# С РОЖДЕСТВОМ ХРИСТОВЫМ И НОВЫМ 2002 ГОДОМ!

## Праздник любви и мира

**А сегодня почему среди людей столько слёз, стонов и страданий? Потому что нет места для Тебя ни в одной человеческой душе.**

Рождество Христово — это радостная минута свершения того, чего ждали. Время Адвента должно наполнить всех желанием подготовиться к празднику любви и мира.

В это время каждого из нас призывает святой Ян Креститель: "Готовьте дорогу Господу, простыми сделайте стези Его".

И в этот час я прихожу к Вам и хочу пожелать Вам, дорогие друзья, хорошего Рождества Христова. Ведь больше нельзя пожелать человеку, как самого Бога, потому что если приходит сам Бог, всё в жизни становится по-другому; даже сарай может быть прекраснее королевского дворца. Когда Он обогревает теплом своей могучей и безграничной любви — тают льды, слова становятся тёплыми и ласковыми, руки тянутся к примирению.

Желаю Вам, дорогие друзья, чтобы Вы среди хлопот и суеты помнили, ради Кого всё это. Пусть Ваши сердца в Рождественскую ночь откроются для принятия Христа.

Пусть в этот праздник в Ваши дома, в Ваши семьи, в наше общество придёт Бог, а вместе с Ним любовь и мир. Чтобы Вы, дорогие читатели, никогда не забывали: "Бог стремится спасти людей посредничеством самих людей. Наш Господь стал Человеком для спасения человека".

Счастливого всем Рождества!

С наступающим Новым 2002 годом!

**Настоятель приходов г. Ивацевичи и г. Коссово Дарьюш БЛАЩИК.**

## Чэмпіён "Алімпійскіх надзей"

### Ім стаў шасцікласнік Алег Лакуц з г. Драгічына



Сцяпан СУПРУН.

Алег Лакуц — чэмпіён "Алімпійскіх надзей".

**Першынство Еўропы па трыятлону (веласпорт, лёгкая атлетыка і плаванне) сярод дарослых праходзіла восенню ў Польшчы. Адначасова адбываліся паралельныя спаборніцтвы і для самых маладых удзельнікаў гэтага віду спорту пад назвай "Алімпійскія надзеі". У іх удзельнічаў і выйшаў пераможцам Алег Лакуц, вучань VI "А" класа СШ № 1 г. Драгічына.**

Алегу 12 гадоў, толькі год займаецца гэтым відам спорту. Сябра параіў яму заняцца трыятлонам, пасля некалькіх наведванняў секцыі заняткі спадабаліся. Заняткі праходзяць кожны дзень па дзве гадзіны.

— А ці не многа гэта для юных спартсменаў? — спытаў я ў трэнера Уладзіміра Васільевіча Кечына.

— Я ўжо працую шмат гадоў, — адказаў У. В. Кечын, — і нагрузкі для сваіх выхаванцаў планую, зыходзячы з іх фізічных магчымасцей. Гэта — першае. А другое ўжо залежыць ад саміх спартсменаў, іх ахвоты, здольнасцей. Што ж тычыцца вучобы ў школе, то Алег займаецца добра, ходзіць у шосты клас з эканамічным ухілам.

Алег Лакуц успамінае:

— У Польшчу мы прыехалі за дзень да спаборніцтваў. Пасяліліся ў гасцініцы. На другі дзень усё пачалося. Я стартаваў у 10 гадзін 30 хвілін. Такіх удзельнікаў, як я, было 40 чалавек. Спачатку было плаванне — 150 метраў, потым 4 кіламетры ехалі на веласіпедах і яшчэ адзін кіламетр беглі. Па суме трох відах спаборніцтваў я стаў першым. Канешне, вельмі прыемна...

Як бачым, просты хлопчык з невялікага палескага гарадка змог заваяваць вялікую перамогу на міжнародных спаборніцтвах. Зразумела, што такая перамога — гэта вялікі гонар не толькі для ўсіх беларусаў, але і для трэнера Алега Лакуца — Уладзіміра Васільевіча Кечына.

— Мне думаецца, — сказаў У. В. Кечын, — што мы яшчэ не раз пачуем імя Алега ў якасці пераможцы розных спаборніцтваў. Ужо ў красавіку будучага года ў Драгічыне адбудуцца рэспубліканскія спаборніцтвы па трыятлону. У іх абавязкова прыме ўдзел Алег Лакуц. І абавязкова пераможа. Я веру ў яго...

Мы таксама верым, што Алег Лакуц разам са сваім трэнерам яшчэ даб'юцца новых спартыўных поспехаў. Удачы вам!

**Антон ХВЕДАРОВІЧ.**

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**Заканчваецца падпіска на перыядычныя выданні на I-е паўгоддзе 2002 года.**

**Падпісная цана на "ГАЗЕТУ ДЛЯ ВАС" складае:**

**для індывідуальных падпісчыкаў (індэкс 63834) на адзін месяц — 1104 рублі, на квартал — 3312 рублёў, на паўгоддзе — 6624 рублі.**



**для ведамаснай падпіскі (індэкс 64145) на адзін месяц — 2085 рублёў, на квартал — 6255 рублёў, на паўгоддзе — 12510 рублёў.**

**Газет для вас выдаецца шмат. "ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС" толькі адна. Не забудзьцеся падпісацца на яе.**

## УВАГА, КОНКУРС!

**Паважаныя чытачы! Напярэдадні навагодніх святаў "Газета для вас" аб'яўляе традыцыйны конкурс-латарэю падпісчыкаў. Прыняць удзел у ім могуць тыя, хто выпісаў наша выданне на 1 квартал (або 1-е паўгоддзе) 2002 г. і хто прышле квітанцыю ці яе копію да 28 снежня 2001 г. на адрас рэдакцыі: 225250 г. Івацэвічы, вул. Леніна, 62, рэдакцыя "Газеты для вас". Даслаць можна проста і пісьмо з нумарам квітанцыі аб падпісцы на "Газету для вас". Але пры атрыманні выйгрышу трэба будзе абавязкова прад'явіць квітанцыю. Вынікі конкурсу будуць апублікаваны ў першым нумары 2002 года. Пераможцаў чакаюць навагоднія сюрпрызы-падарункі.**

**УДЗЕЛЬНІЧАЙЦЕ — І ПЕРАМАГАЙЦЕ!**

**І яшчэ раз увага! Розыгрыш прызоў адбудзецца 28 снежня г. г. у 16 гадзін у *памяшканні* рэдакцыі "Газеты для вас" (*г. Івацэвічы, вул.* Леніна, 62). Усіх, хто хоча *прысутнічаць пры* розыгрышы, — шчыра запрашаем!**

# ПАЦЫЕНТАЎ — НА ХОЛАД

## Медыкі Бярозы абследуюць пацыентаў у перасовачным флюарографе

**Чытачы нашай газеты патэлефанавалі ў рэдакцыю і з абурэннем паведамілі аб тым, што флюараграфічны кабінет райбальніцы не працуе, а на вуліцы, на марозе, стаіць перасовачны флюорограф, якім у халоднае надвор'е карыстацца не толькі нязручна, але і небяспечна — можна падхапіць прастуду.**

Ужо ў Бярозе лабарант перасовачнага флюарографа пацвердзіў паведамленне чытачоў газеты і дадаў:

— Штодзённа прымаем тут да паўсотні чалавек. Вядома, холадна, трэба ж распранацца. Напрыклад, за апошнія чатыры дні ( з 12 па 17 снежня) прынялі звыш двухсот чалавек. 17 снежня, калі на двары было каля 17 градусаў марозу, — прынялі 50 чалавек. Калі адрамантуюць стацыянарны флюарограф, не ведаю...

За тлумачэннем абстаноўкі я звярнуўся да **загадчыка рэнтгенкабінета райбальніцы А. Ю. КАВАЛЁВА.**

— Перасовачны флюарограф — гэта часовае выйсце са становішча, што склалася, — сказаў Аляксандр Юр'евіч. — Справа ў тым, што на стацыянары выйшла са строю рэнтгенаўская трубка. Знайсці гэтую важную дэталь няпроста. Але кіраўніцтва бальніцы робіць усё, каб хутчэй адрамантаваць стацыянарную ўстаноўку. Такая трубка ўжо заказана. Кошт яе адзін мільён рублёў. Грошы немалыя, але іх знайшлі. Ускладняецца ўсё тым, што такую дэталь выпускае толькі завод у Санкт-Пецярбургу. Тэрмін пастаўкі дэталі — не больш двух месяцаў. Будзем спадзявацца, што паставяць хутчэй. Мы зацікаўлены, каб флюараграфічны стацыянар запрацаваў хутчэй, бо ўжо з новага года пачынаецца масавае абследаванне насельніцтва...

Будзем таксама спадзявацца, што кіраўніцтва раённай бальніцы стрымае сваё слова.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**



Святаслаў КАЖАДУБ.

**Перасовачны флюарограф ля паліклінікі г. Бярозы.**

# Станцыя па абезжалезванні:

## чакалі тры гады, пачакаем яшчэ два і...

**"Прывітанне, "Газета для вас"! Яшчэ гады з тры таму я вам тэлефанаваў і пытаўся пра ваду, пра тое, як хутка вада ў кранах з іржавай ператворыцца ў чыстую. Вы штосьці адказвалі пра станцыю, якая будуецца, а зараз нібыта ўсе і забыліся пра гэтую праблему".**

**Віктар АСОБІК,**
**г. Івацэвічы.**

Сітуацыю тлумачыць **Пётр Валянцінавіч КРОНДА, начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва Івацэвіцкага райвыканкама:**

— За 2001 год мы практычна ўжо асвоілі тыя 185 мільёнаў рублёў, якія былі адпушчаны на гэты год. Каб давесці будаўніцтва станцыі па абезжалезванні да канца, нам трэба яшчэ каля 1 мільярда рублёў, а на 2002 год з абласнога і рэспубліканскага бюджэту нам выдзелілі толькі 492 мільёны. Раённы бюджэт, на жаль, дапамагчы не можа, сам на датацыях...

Ну, як не зняць шапку перад народнай мудрасцю: сапраўды, абяцанага доўга чакаюць...

**Падрыхтаваў**
**Аляксандр ГОРБАЧ.**

# "Это зарплата

## или издевательство?"

17 декабря в редакцию позвонили с нижнего склада Ивацевичского леспромхоза. Рабочие ЛПХ говорили о своих проблемах. Суть их в следующих словах:

**— Практически каждая суббота у нас рабочая. За прошедший месяц у нас их, рабочих суббот, было аж четыре. Отрабатываем потому, что в будние дни не всегда есть работа. Но ведь такие простои — не по нашей вине. Нет ли здесь противоречия с Трудовым кодексом?**

**Наши зарплаты не превышают 50 тысяч рублей. Это зарплата или издевательство? Нам твердят, что-де организация в тяжёлом состоянии. Да вот верится с трудом. Столько "лимузинов" ЛПХ приобрёл в последнее время — "Волга", "ВАЗ", "УАЗ"... Зачем такая фешенебельная (в наших условиях) техника, когда на зарплату денег нет?**

**Между прочим, на головном предприятии — ОАО "Ивацевичдрев" — зарплата таких же трудяг составляет около 150 тысяч рублей. Наш ЛПХ — филиал ОАО, а зарплата просто детская...**

**ОСИПИК, СОРОКА, МОЛОШ, ХОВАНСКИЙ, КУИС, МОЧИНСКИЙ, ТОЛСТИК, КВАШЕВИЧ, БУРИН, ШЕМЕРЕЙ, НОВИК, ОСИПИК и др.**

Ситуацию комментирует **Эмма Эдмундовна МАКАРОВА, начальник планового отдела, главный экономист ЛПХ:**

— Учитывать надо, что наши рабочие — сдельщики, их зарплата зависит от того, выполнен ли план. План по разделке в последний месяц — 6,5 тысяч кубометров, сделано — 4,8. Отсюда и невысокая зарплата.

Что касается "лимузинов"... Мы, ЛПХ, филиал ОАО "Ивацевичдрев", а потому, если и были покупки авто, то они не проходили келейно, а под контролем головного предприятия, акционеров (!?) то есть...

Тарифная ставка таких же рабочих на ОАО выше, потому зарплата там, действительно, больше. Но не настолько, как сообщается. Там получают около 100 тысяч. Но если бы был выполнен план, то получена была бы премия (40%) и зарплата значительно подросла бы.

**Подготовил**
**Александр ГОРБАЧ.**

# Успех "Крыніцы"

**БЕРЁЗА.** В эти дни в Брестском Центре Молодёжного творчества проходит областная выставка прикладного творчества, в которой принимают участие районные центры внешкольной работы. По предварительным данным, как жюри, так и посетители выставки наивысшую оценку ставят работам детей и руководителей кружков Берёзовского районного центра внешкольной работы "Крыніца". Второе место то устойчиво занимает творчество ивацевичских коллег. Окончательные итоги выставки будут подведены в январе 2002 года.

**Николай СИНКЕВИЧ.**

# Разыскивается

Кобринским ГРОВД разыскивается за совершение убийства ранее неоднократно судимый **ДЕВКШ Сергей Мечиславович,** 1974 года рождения, уроженец и житель г. Минска. Его приметы: 170-175 см, среднего телосложения, волос тёмно-русый, глаза голубые, лицо широкое. Преступник вооружён пистолетом, дерзок. При наличии сведений о его местонахождении просим сообщить по телефонам **(8-242) 2-27-67, 2-86-38, 2-51-51** или **02.**

# "Дзеці мёрзнуць

## і грэюцца скокамі"

**"Добры дзень, паважаная "Газета для вас". Званю вам з в. Быцень Івацэвіцкага раёна. Завуць мяне Лідзія Іванаўна МАКАРЭВІЧ, а праблема — холад у нашай сярэдняй школе.**

**Хачу расказаць вам і ўсім людзям: тэмпература ў нашай школе такая нізкая, у кабінетах так холадна, што дзеці сядзяць на ўроках у куртках, шубах, шапках, пальчатках. Не ведаю, хто чаго ў нас не дагледзеў. Да прыкладу, у Быценскай школе-інтэрнаце для дзяцей вырашаны ўсе праблемы з ацяпленнем і харчаваннем.**

**А можа, нам сваіх дзяцей таксама ў інтэрнат адправіць?**

**Я званіла ў райвыканкам, у аддзел адукацыі. А ў адказ — цішыня. А зіма набірае абароты. Няўжо за здароўе дзяцей нашых ніхто не адказвае?"**

Сітуацыю каменціруе **Соф'я Іванаўна ГРАБУН, дырэктар Быценскай СШ:**

— За час свайго дырэктарства сістэму ацяплення школы перараблялі разоў дзесяць. Загадчык РАА неаднаразова сам асабіста прымаў удзел у рамонце. Лічу, уся справа ў дыягностыцы: ніхто не можа дакладна сказаць, што нам рабіць з гэтым ацяпленнем.

Да таго ж памяшканне халоднае, вокны — вялікія. Мы робім усё магчымае, каб нармалізаваць сітуацыю...

**Падрыхтаваў**
**Аляксандр ГОРБАЧ.**

# Ёлочные базары и заслоны для браконьеров

**С 20 декабря в каждом городе и городке нашей республики открылись ёлочные базары.**

Ёлочки к новогоднему празднику будут заготавливаться на специальных плантациях, а также в порядке расчистки трасс, просек, полос отвода под рубку леса.

А чтобы пресечь самовольные вырубки леса, специалисты комитета лесного хозяйства совместно с работниками милиции уже договорились об охране хвойного молодняка. На всех автодорогах уже определены посты досмотра. У водителей будут проверятся документы на право провозить ели.

И несколько слов о ценах на ели и величине штрафов за незаконные вырубки. За тысячу с небольшим можно будет купить приличную ёлочку. А штраф за такую же ёлочку больше — в десять раз. Так что лучше всего всё делать без нарушений.

**Нина МАРЧУК.**

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на прадуктовых рынках нашага рэгіёну па стану на 19.12.2001 г. (у руб. за адзін кілаграм):**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын | Кобрын |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 3500—4500 | 3500—5000 | 3500—4500 | 3500—4500 | 3500—4000 | 3000—4000 |
| Сала салёнае | 3000—3500 | 3000—3500 | 3000—3500 | 3000 | 3000—3500 | 3000—3500 |
| Алей (1 л) | 1400—1600 | 1350—1600 | 1400—1600 | 1500—1700 | 1400—1600 | 1600 |
| Яйкі (1 дзяс.) | 1400—1450 | 1400—1500 | 1500 | 1500 | 1400 | 1300—1400 |
| Малако (3 л) | 900 | 800—1000 | 900 | 900 | 900 | 900 |
| Гранаты | 3000—3500 | 3000—3500 | 3000—3500 | 3000 | 3000—3500 | — |
| Масла сметанк. | 2500—3000 | 2500—3000 | 3200 | 3000 | 2500—3000 | 2700 |
| Бульба | — | 150—200 | 150 | — | — | — |
| Цыбуля | 400—500 | 400—600 | 400—500 | 400—500 | 400—500 | 500 |
| Морква | — | 300—400 | 300—400 | 300—400 | 300—400 | 300—400 |
| Капуста | — | 180—250 | 180—250 | 180—250 | 180—250 | 250—300 |
| Памідоры | — | 1800—2000 | 2000 | 2000 | 2000 | — |
| Селядцы | 2000 | 1800—2000 | 2000 | 1800 | 1800 | 2000 |
| Ківі (1 шт) | 250—350 | 300—400 | 300—400 | 300—350 | 300—350 | — |
| Грэцкія арэхі | 2000—2500 | 2000—2500 | 2000 | 2000 | 2000 | 2000 |
| Яблыкі | 450—550 | 550—600 | 450—500 | 450—500 | 450—500 | 350—500 |
| Маянэз (1п.) | 270—460 | 250—420 | 270—420 | 270—450 | 270—520 | 270—460 |
| Вінаград | 2500—4000 | 2500—4000 | 2700—4000 | 2650—4000 | 2650—4000 | — |
| Мандарыны | 1700—2000 | 1600—2000 | 1800—2000 | 1800—2000 | 1800—2000 | 2000 |
| Часнок (1 гал.) | 80—100 | 80—150 | 80—100 | 80—100 | 80—100 | 100—150 |
| Лімоны | 1800 | 1500—2000 | 1600—1900 | 1600—1900 | 1600—1800 | 1900 |
| Апельсіны | 1600—1800 | 1600—2000 | 1700—1800 | 1700—2000 | 1600—1800 | 1800 |
| Бананы | 1200—1300 | 1200 | 1000—1300 | 1350 | 1200 | 1200 |
| Хурма | 2000—4000 | 2100—4000 | 2500—3500 | 2100—4000 | 2100—4000 | 2400 |
| Грэчка | 500—550 | 500—540 | 500—550 | 600 | 550 | 550 |
| Макар. вырабы | 550—680 | 500—650 | 580—650 | 500—650 | 500—670 | 550—650 |
| Рыс | 550—600 | 500—600 | 500—550 | 550—600 | 550—600 | 600 |
| Манныя крупы | 560 | 560 | 550 | 540 | 530 | 550 |
| Проса | 380 | 330 | 380 | 400 | 380—400 | 400 |
| Цукар | 700 | 700 | 750 | 740 | 700 | 700 |
| Мёд | 6000 | 5000-6000 | 5000 | 5000 | 5000-6000 | 6000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1580 | 1600 | 1570 | 1600 | 1580 | 1600 | 1590 | 1605 | 1560 | 1580 | 1570 | 1600 |
| 1 дойчмарка | 680 | 710 | 680 | 700 | 690 | 700 | 680 | 700 | 680 | 700 | 680 | 710 |
| 1 рубель Расіі | 51 | 53 | 51 | 53 | 51 | 53 | 51 | 53 | 51 | 53 | 50 | 52 |

# ПРАКУРАТУРА ПАСТАВІЛА КРОПКУ Ў "СПРАВЕ КУРАПАТАЎ"

## Грамадскасці сталі вядомы імёны расстраляных ахвяраў сталінскіх рэпрэсій

**9 лістапада 2001 года ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь сябрамі ініцыятывы быў дасланы запыт з просьбай давесці да грамадскасці вынікі расследавання, праведзенага ва ўрочышчы Курапаты ў 1997-1999 гг. Менавіта гэты пункт стаў адным з самых важных у праграмнай заяве ініцыятывы, падпісанай прадстаўнікамі больш як трыццаці грамадскіх арганізацый. На дадзеныя расследавання 1997-1999 гг. да гэтага часу спасылаюцца прыхільнікі "нямецка-фашысцкага следу" ў курапацкіх пахаваннях.**

**12 снежня 2001 года на імя спадарыні Ларысы Андросік, старшыні грамадскага аб'яднання "Дыярыуш", з Пракуратуры прыйшоў адказ.**

У дасланым лісце, падпісаным начальнікам аддзела па наглядзе за выкананнем законаў у войсках і на транспарце, старэйшым саветнікам юстыцыі спадаром А.Доўбышам, адзначана, што "як першапачатковым, так і дадатковым расследаваннем устаноўлена, што ў 1937-1940 гадах органамі НКВД з месцаў заключэнняў вывозіліся ва ўрочышча Курапаты людзі і там расстрэльваліся". Нягледзячы на вельмі няпэўны тон адказу, грамадская ініцыятыва дабілася, каб упершыню за сем год улады, нарэшце, прызналі, што ва ўрочышчы Курапаты пахаваны ахвяры менавіта сталінскіх рэпрэсій 1937-40-х гг.

Як сцвярджае гісторык, дацэнт БДУ, эксперт у расследаванні справы Курапатаў у 1997-1999 гг. Ігар Кузняцоў, такі адказ — цалкам лагічны, бо "у матэрыялах усіх следстваў, праведзеных у Курапатах на працягу дванаццаці год, няма інфармацыі пра тое, што ва ўрочышчы расстрэльвалі людзей падчас акупацыі 1941-44 гг. Ніякіх доказаў на карысць "нямецкага следу" не было знойдзена".

Нагадаем, што версія пра "нямецкі след" у Курапатах была прапанавана спадаром Валянцінам Корзунам, старшынёй грамадскай камісіі па расследаванні злачынстваў у Курапатах (дарэчы, ні склад, ні статус камісіі да гэтага часу невядомы). Спадар Корзун даводзіў, нібыта тут расстрэльвалі гамбургскіх і аўстрыйскіх яўрэяў-перакладчыкаў з рускай мовы. Гэтая версія, створаная, па думку гісторыка Кузняцова, па аналогіі з Трасцянцом, па прычыне адсутнасці доказаў хутка адпала. Другі доказ на карысць "нямецкага следу" — у пахаваннях былі знойдзены гільзы ад сістэмы "Браунінг" нямецкай вытворчасці — таксама не вытрымлівае крытыкі. Па словах Алега Іова — археолага-удзельніка раскопак у Курапатах у 1988, 1997-1999 гг., "такія маркі зброі былі надзвычай папулярныя у каманднага складу НКВД БССР. Прытым, гільзы ад дадзенай маркі зброі складаюць у пахаваннях менш за 1%".

У адказе на імя сябра ініцыятывы спадар Доўбыш сцвярджае, што паколькі пры дадатковым расследаванні справы былі арганізаваны раскопкі 23 мяркуемых пахаванняў, з якіх толькі ў дзевяці аказаліся чалавечыя астанкі, "была зроблена выснова, што першапачатковая колькасць ахвяраў у пахаваннях была завышана на некалькі парадкаў". Археолаг Іоў у сваім каментарыі прэс-службе ініцыятывы патлумачыў, што пустыя ўпадзіны, пра якія піша спадар Доўбыш, ляжаць за межамі курапацкіх пахаванняў, і раскопкі ў іх праводзіліся дзеля пэўнасці, ці няма там чалавечых астанкаў. Таму "першыя лічбы курапацкіх ахвяраў, выведзеныя падчас следства 1988-89гг., — 30 тыс. чалавек, якія ляжаць у межах курапацкіх пахаванняў — не змяншаюцца".

Сапраўднай сенсацыяй можна назваць тое, пра што піша старэйшы дарадца юстыцыі: "У працэсе расследавання справы ў 1997-99 гг. удалося ідэнтыфікаваць астанкі трох чалавек".

"Пра такі яркі доказ археолагі марылі яшчэ ў 1988 годзе, — кажа спадар Іоў. — Мне вядомы імёны двух расстраляных. Гэта яўрэі Мардыхай Шулескес і Мойша Іхеевіч Кранэр. Канфіскацыя грошай у іх адбывалася ў гродзенскай турме ў 1940 годзе, што адлюстравана ў знойдзеных у магілах афіцыйных бланках квітанцый."

Такім чынам, у справе аб рассакрэчванні матэрыялаў следства 1997-99 гг. зроблены толькі першы, але вельмі важкі крок. Ён ужо дазваляе спыняць усялякія палітычныя гульні на памяці ахвяраў сталінскага генацыду. Наступным крокам мусіць стаць поўнае рассакрэчванне матэрыялаў следства, якое дазволіць зразумець сапраўдныя маштабы курапацкай трагедыі. У сваю чаргу гэта стане нагодай для кансалідацыі беларускай нацыі дзеля пабудовы ва ўрочышчы Курапаты Нацыянальнага мемарыяла ў памяць аб ахвярах палітычных рэпрэсій 1930-40-х гг. У хуткім часе з мэтай ушанавання памяці загінуўшых у рэпрэсіях людзей сябры грамадскай ініцыятывы пачнуць ствараць Беларускі Індэкс рэпрэсаваных.

**Сяргей САХАРАЎ.**

# "За ўратаванне мемарыяла Курапаты"

10 снежня 2001 года адбылося пасяджэнне грамадскай ініцыятывы "За ўратаванне мемарыяла Курапаты", на якім быў сфармаваны Выканаўчы камітэт. У склад выканкама ўвайшлі каардынатары Рабочых групаў ініцыятывы: Аляксей Марачкін (Рабочая група па стварэнні мемарыяла), Уладзімір Кішкурна (грамадскае назіранне), Сяргей Сахараў (прэс-група), Уладзімір Лабковіч (юрыдычная група), Ірына Жыхар (праца з дзяржструктурамі), Віктар Івашкевіч (праца з бізнес-структурамі), Наталля Казлоўская (супрацоўніцтва з грамадскімі арганізацыямі — не сябрамі ініцыятывы), Аляксандр Шалайка (рабочая група па сувязях з міжнароднай супольнасцю), Ларыса Андросік (навукова-метадычная група), Андрэй Петравых (група па сувязях з канфесіямі), Аляксей Кароль (рэдакцыйная група), Рыгор Гітліц (група па сувязях з грамадскасцю).

Першым пытаннем, вынесеным на абмеркаванне Выканаўчага камітэта, было пытанне мемарыялізацыі ўрочышча Курапаты. Як паказаў вопыт іншых краінаў, стварэнне годнага помніка ў памяць ахвяраў палітычных рэпрэсій закранае пытанні этыкі і маралі, таму не павінна фарсіравацца. Сябры Выканкама згадзіліся, што дзеля стварэння сапраўды Нацыянальнага помніка ў памяць ахвяраў палітрэпрэсій мусіць быць праведзенае ўсенароднае абмеркаванне архітэктурных праектаў помніка. На працягу тыдня адпаведная рабочая група распрацуе сваю канцэпцыю помніка, якая будзе прадстаўлена грамадскасці для ўсеагульнага абмеркавання — гэта паякладзе пачатак грамадскай дыскусіі па стварэнні мемарыяла. У выніку яе будзе створана камісія па правядзенні конкурсу. Але паколькі пытанне мемарыялізацыі не можа адкладацца надалей, вырашана, што бліжэйшым часам у Курапатах будзе ўзведзена часовая агароджа, а на ўваходзе пастаўлены брамы, што цалкам адпавядае нацыянальным традыцыям ушанавання памерлых.

Беларусь лічыцца шматканфесійнай краінай, таму Выканкам вырашыў звярнуцца да прадстаўнікоў усіх зарэгістраваных канфесій з просьбай штотыдзень у час малебнаў і службаў узгадваць загінуўшых у Курапатах.

З мэтай стварэння Беларускага Індэкса рэпрэсаваных навукова-метадычная група плануе змясціць у СМІ зварот да людзей с просьбай дасылаць копіі даведак аб рэабілітацыі блізкіх, рэпрэсаваных у савецкія часы.

**Сяргей САХАРАЎ.**

# Галоўнага рэдактара "Пагоні" Міколу Маркевіча аштрафавалі

"Ты крыкнуць не можаш
"ратуйце",
і мусіш ты "дзякуй"
крычаць..."

**Максім БАГДАНОВІЧ.**

**Штрафам у памеры 50 мінімальных заробкаў быў пакараны галоўны рэдактар "Пагоні" Мікола Маркевіч. Такое рашэнне вынес суддзя па адміністрацыйных справах Ленінскага раённага суда горада Гродна Дзмітрый Дземчанка. Журналіста абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным пікетаванні, якое адбылося ў знак пратэсту супраць закрыцця "Пагоні" 19-га лістапада бягучага года ў Гродне.**

Мікола Маркевіч сваёй віны не прызнаў. Каментуючы пастанову суддзі, ён падкрэсліў, што Канстытуцыя краіны гарантуе чалавеку права пратэставаць супраць незаконных дзеянняў уладаў. Паводле словаў журналіста: "Тое, што гэтыя ўлады панастаўлялі антыканстытуцыйныя законы і на гэтай падставе судзяць сваіх палітычных апанентаў, сведчыць пра амаральнасць гэтай улады."

— Слова "юстыцыя" у перакладзе з лаціны азначае "правасуддзе". Аднак, як паказвае сённяшняя пастанова суда, беларускія суддзі, на маю думку, гэтага не ведаюць. Гэтае рашэнне — чарговая пляма на і без таго брудным мундзіры беларускай юстыцыі, — заявіў Мікола Маркевіч адразу пасля суда.

Нагадаем, што 26 лістапада суддзя Дзмітрый Дземчанка за ўдзел у тым самым пікеце пакараў папярэджаннем яшчэ двух журналістаў "Пагоні": Андрэя Пісальніка і Паўла Мажэйку.

**Іван ПАЎЛЁНАК.**

# З якім настроем вы сустракаеце Новы год?

## Адказваюць жыхары горада Косава



**ІРА І ЛАРЫСА:** Хочацца пакінуць усё дрэннае у старым годзе. Назаўсёды. А настрой сёння не вельмі радасны. Трэба рыхтаваць святочны стол, а зарплата невялікая. Вось і думай.



**БАРЫС АНТОНАВІЧ:** Скажу адразу — настрой песімістычны, хоць і пенсію атрымліваю рэгулярна. Аднак яе на ўсё не хапае. Прыходзіцца эканоміць. А Новы год усё-такі сустрэну за святочным сталом.



**НАТАЛЛЯ:** Я — музычны работнік, таму ствараць весялосць прыдзецца самой. Новы год сустрэну ў сям'і. Я ўсё спадзяюся, што наша жыццё палепшыцца. Тады і настрой узнімецца.



**УЛАДЗІМІР:** Я пакуль што беспрацоўны. Уладкавацца на працу ў Косаве няпроста. Дый калі работа ёсць, то зарплата зусім смешная. Адкуль быць добраму настрою? Але Новы год буду сустракаць.



**ІВАН ФАМІЧ:** Мне ўжо 74 гады, а я яшчэ бадзёры. Настрой добры, пераднавагодні. Жыву няблага, пенсіі хапае, яшчэ дзецям дапамагаю. Так што жыць можна і святкаваць.



**МАРЫЯ АНТОНАЎНА:** Настрою зусім няма. Я засталася ў хаце адна. Няма каму і дроў падвезці. Лягу спаць раней, а прачнуся ўжо ў 2002 годзе. Мо ён штосьці лепшае прынясе ўсім нам...

*У народ хадзілі Святаслаў КАЖАДУБ, Андрэй МАЦУКЕВІЧ (фота).*

# КАРАЛЕВА ЖЫВОГА СЛОВА і пакутлівай праўды



(Працяг. Пачатак у № 46, 47, 48, 49, 50):

## IV. МАЛАДОСЦЬ ДУШЫ І СЭРЦА

6.

17 чэрвеня 1908 года Эліза Ажэшка паведаміла Люцыне Катарынскай, рэдактару "Тыднёвіка мод і аповесцей", наступнае:

"Адчуваю поўнае вычарпанне і нават поўнае заканчэнне. Можа, тое самае адчувае агеньчык перад згасаннем, калі пасля імгненнай успышкі западае ў глыб падсвечніка. Праз тыдзень еду ў вёску, дзесьці на Навагрудчыне, чыгуначная станцыя Ляхавічы, маёнтак Фларыянаў, дзе буду піць нейкія воды і дыхаць свежым паветрам (тут яно жахлівае).

Не ведаю ні месца, ні людзей, да якіх еду, не ведаю, як мне там будзе. Еду з Марынай..."

Маецца на ўвазе Марына Абрамбская — былая сакратарка і блізкая сяброўка пісьменніцы.

Яшчэ ў адным са сваіх пісем Эліза Ажэшка паведамляла: "Я прагну яшчэ раз у жыцці правесці лета на шчырай, сапраўднай літоўскай вёсцы, карыстаючыся гасціннасцю панства Бохвіцаў, якія тут уладкавалі выгоды і ладны пансіянат для людзей такіх, як я, у вясковым значэнні, бяздомных".

Такім чынам, пісьменніца паявілася ў маёнтку Флер'янова. Што сабой уяўляў маёнтак і вёска Флер'янова? Размяшчалася яна за пяць кіламетраў ад Ляхавіч.

"У гэтай прыгожай вёсцы, — з захапленнем пісала Эліза Ажэшка, — я адчуваю сябе больш моцнай, чым калі-небудзь. Вёска патанае ў зялёных раскошных дрэвах, квітнее слупкамі касачоў і дываны незабудак, спявае мільёнамі галасоў, якія звіняць, шэпчуць у крышталі духмянага паветра..."

Да таго ж у Флер'янове быў так званы пейзажны сад з фруктовымі насаджэннямі і цяністымі ліпавымі алеямі, з домам і флігелем, з вялікім партэрным кветнікам і пляцоўкай для кракету, з прагулачнымі дарожкамі. За садам раскінуліся прасторы палёў, засеяных жытам.

7.

Адзін з маладых наведвальнікаў маёнтка таго часу ўспамінаў: "Танцы адышлі на другі план і неяк вялікага поспеху не мелі. Можа, таму, што часцей за ўсё кампанія збіралася пасля доўгіх шпацыраў, а сама прагулка па вялізным флерыяноўскім садзе настолькі стамляла, што не было ўжо вялікай ахвоты да жвавай мазуркі, альбо таксама стамляльнай полькі".

А цяпер колькі слоў пра гаспадароў маёнтка Флер'янова. Васемнаццацігадовым афіцэрам гусарскага палка Ян Отан Бохвіц удзельнічаў у Крымскай вайне. За ўдзел у паўстанні 1863—1864 гадоў адбываў год зняволення ў Дынабурскай крэпасці. А потым зноў адбудоўваў зруйнаваны маёнтак, гадаваў сад, прыводзіў усё ў парадак. Трохі пісаў і друкаваў вершы, але вялікую цікавасць для нашчадкаў мела яго праца "Як закладваць і даглядаць сад" (1904 г.).



Эліза Ажэшка. Фота 1904 г.

Тадэвуш Бохвіц. Фота 1898 г.



Маёнтак Флер'янова, дзе ў 1908—1909 гадах жыла Эліза Ажэшка. Фота 2001 года.

Новы гаспадар маёнтка Тадэвуш Бохвіц (1863—1930 гг.), унук Яна Отана Бохвіца, скончыў Слуцкую гімназію, а потым землеробчую школу ў Горках. Тадэвуш Бохвіц не атрымаў вышэйшай адукацыі не толькі з-за слабога здароўя, а яшчэ па той прычыне, што землеробчы інстытут з нядаўняга часу быў пераведзены ў Пецярбург.

Пан Тадэвуш Бохвіц часта хварэў, але не падаваў віду.

Ён двойчы ездзіў у Егіпет для лячэння лёгкіх.

Настойлівай самаадукацыяй гаспадар маёнтка пастаянна папаўняў свае веды.

8.

Тадэвуш Бохвіц добра валодаў французскай мовай, прачытаў у арыгінале творы амаль усіх лепшых французскіх пісьменнікаў 19 стагоддзя. Захапляўся гісторыяй польскай і рускай журналістыкі. Ён сабраў вялікую калекцыю перыядычных выданняў, склаў бібліяграфію па гісторыі польскай журналістыкі, праўда, яна не была апублікавана.

Добра выхаваны, прыгожы і прыстойны з выгляду, пан Тадэвуш уяўляў сабой, як казалі тады, інтэлігентніка той пары. Не вельмі прыстасаваны да жыцця, ён даверыў кіраванне домам сваёй жонцы, а сам з ахвотай займаўся сваімі паперамі, чытаннем, рознымі паездкамі.

Польскі біёграф Э. Янкоўскі прыезд славутай пісьменніцы Элізы Ажэшкі ў Флер'янова назваў "апошняй прыгодай" у яе жыцці, бо яна, маўляў, закончылася шчырай закаханасцю ў гаспадара маёнтка.

Іншыя даследчыкі сцвярджаюць, што ні доўгае знаходжанне Ажэшкі ў Флер'янове, ні яе закаханасць, ні яе перапіска з Тадэвушам Бохвіцам нельга назваць "прыгодай". Маўляў, завяршалася жыццё вядомай пісьменніцы, падводзіліся вынікі зробленага. Таму лісты Элізы Ажэшкі да Тадэвуша Бохвіца перш за ўсё маюць літаратурную каштоўнасць. Чытач становіцца як бы сведкай сяброўскай размовы двух сталых людзей, якія не толькі паважаюць, але і кахаюць адзін аднаго.

Як жа адбылося збліжэнне і перапіска Ажэшкі і Бохвіца?

Чытач, напэўна, будзе здзіўлены тым, калі даведаецца, што перапіска паміж Элізай і Тадэвушам пачалася непасрэдна ў доме гаспадара. Так, другі ліст, перасланы з аднаго пакою ў другі, заслугоўвае таго, каб спыніцца на ім больш падрабязна, выкарыстоўваючы ўрыўкі з яго.

9.

"13(26) VIII. (1908 г., Фларыянаў).

...Забаўна тое, што маючы магчымасць размаўляць, я пішу. Але што? У кожнага свая натура. У мяне такая, што калі справы блізкія, асабістыя, сардэчныя, словы на маіх вуснах дрыжаць і канаюць. Зрэшты, можа ў гэтым няма нічога дзіўнага, калі такі майстар мовы, як Міцкевіч, скардзіўся на тое, што яны "на паветры стынуць".

...У першы дзень прыезду, пасля хвіліннай размовы на ганку, адыходзячы ў сад, я падумала: якія тужлівыя вочы. Пазней запытвала сябе, ці памыляюся? І не зважаючы на выгляд, мне, здавалася, што трапна здагадваюся. Ваша кніжка не выклікае ў гэтым сумнення. У Вас на душы глыбокі пласт смутку і тугі, можа часам нават страта ахвоты да жыцця, як Вы некалі ў сувязі з нечым іншым адрэслілі: "ні крышачкі шчасця".

Іменна гэта ў спалучэнні з Вашай чуллівасцю і тонкай уражлівасцю, таксама ўгаданымі, выклікала ў мяне асаблівую да Вас сімпатыю. Асаблівую, бо нашы сімпатыі розныя. Любім ці кахаем шмат асоб, але кожную трохі альбо і вельмі па-рознаму..."

Далей Эліза Ажэшка прызнаецца: "Я ахвотна аддала б рэшту жыцця, каб толькі на дарагую для мяне Вашу галаву справадзіць прамень радасці. Але што я магу? Можа, падзяліцца хоць бы здалёк думкамі і ўражаннямі. Можа, іскрай сардэчнай цеплыні?.."

10.

Тадэвушу Бохвіцу, скажам шчыра, было даволі і радасці, і клопату з тымі шматлікімі лістамі, што ішлі ад славутай пісьменніцы. Дарэчы, Эліза была старэйшай за Тадэвуша больш як на дваццаць гадоў. Тым не менш пані Ажэшка ўмела сябраваць і ніколі не здраджвала ў гэтым. Яна заўсёды дзейная, уважлівая і засяроджаная, старалася дапамагчы сям'і Бохвіцаў усім, чым тады магла.

Закончылася першае флер'яноўскае лета. Эліза Ажэшка назвала яго "страфой паэмы", значыць, па яе ацэнцы, няпоўнай паэмай, але стала каштоўным набыткам для чалавечых адносін — трывалым сяброўствам.

Валодаючы значнымі ведамі ў галіне батанікі, Эліза прывезла ў гродзенскі дом гербарый з кветніка, а пялёсткамі флер'яноўскіх ружаў аздабляла свае пісьмы, якія пасылала пану Бохвіцу.

Як і ў Людвінове, Ажэшка любіла вандраваць. Ведаючы беларускую мову, як і ўсе старэйшыя Бохвіцы, яна наведвала бліжэйшыя вёскі, захаплялася і збірала беларускі фальклор. Вынікам вандровак стала з'яўленне ў 1908 годзе ў кракаўскім друку "Беларускай легенды". Гэта сатырычная гумарэска пра тое, як беларускі мужык атрымаў на свой хрыбет мноства паноў. Дзеянне як быццам адбывалася ў Ляхавічах ці дзесьці недалёка ад іх.

11.

Вось гэтая легенда. Бог вырашыў да бездапаможнага, абутага ў беларускія лапці, першага продка Адама прыставіць пана. З мукі, якую прынёс Адам, ён замясіў цеста і загадаў пільнаваць. Але стомлены продак задрамаў, а тым часам галодны сабака з'еў цеста. Раззлаваны Адам схапіў сабаку і стукнуў ім аб дрэва — бярозу. З сабачай морды выскачыў пан Бжазінскі. Так і пайшло — сыпаліся паны Сасноўскія, Ядлінскія, Дубоўскія, а калі ашалелы Адам затрос сабаку ў паветры — высыпаліся паны Рэйтаны і Бохвіцы. За вялізную колькасць паноў Адам зноў быў пакараны пажыццёва служыць ім.

Эліза Ажэшка яскрава выказала свае дэмакратычныя погляды да беларускай народна-паэтычнай творчасці яшчэ ў часы напісання аповесцей пра беларускі народ, а потым і нарысаў "Людзі і кветкі на берагах Нёмана". У ёй пісьменніца бачыла адлюстраванне духоўнага багацця прыгнечанай нацыі. Расказаная вышэй "Беларуская легенда", была апошнім падарункам Ажэшкі ў польскі друк.

Яшчэ адна падзея таго лета запомнілася Элізе. Разам з Тадэвушам Бохвіцам і Марыяй Абрамбскай яны зрабілі паездку ў Ракаў да паноў Здзяхоўскіх. Сам Ракаў пісьменніца назвала "літоўскімі Афінамі", а букет незабудак, што па дарозе сабраў для яе пан Тадэвуш, быў самым дарагім.



Флер'яноўскі палаца-паркавы ансамбль XIX стагоддзя. Ахоўваецца дзяржавай. Фота 2001 года.



Вёска Флер'янова Ляхавіцкага раёна.

Святаслаў КАЖАДУБ.
Івацэвічы — Драгічын — Ляхавічы.
Фота аўтара.
(Працяг будзе).

Трэці сектар




# ВОЛЬНЫ РЭГІЁН



# “НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА”...

## Аднаўляецца грэка-каталіцкая царква

**Кожную нядзелю ў гэтым доме збіраюцца людзі. Гучыць родная мова, ад якой мы як бы́цам (як гэта ні прыкра!) ужо і адвыклі. Гучыць, так бы мовіць, ва ўвесь голас. Вас зацікавіла, што тут адбываецца? Аўтара гэтых радкоў таксама.**

**Знаёмцеся: грэка-каталіцкая парафія ці ўніяты, ці проста цудоўныя людзі, для якіх жыццё — не проста баўленне часу, а служэнне Богу, Айчыне, людзям.**

### “ЖЫЦЦЁ Ў ХРЫСЦЕ АБ'ЯДНОЎВАЕ ЎСІХ НАС”

Так атрымалася, што расказаць нам, беларусам, аб нашай кроўнай рэлігіі, трэба пачынаць з самых, так бы мовіць, азоў, бо дзевяноста працэнтаў насельніцтва не могуць сказаць адназначна: хто такія ўніяты? А, насамрэч, хто?

На першы погляд, удалае месцазнаходжанне Беларусі, так называемы цэнтр Еўропы, не можа гарантаваць бяспеку ад асіміляцыі з боку двух вельмі моцных этнічных груп — рускія і палякі, рэлігійных — праваслаўныя і католікі.

Умоўная мяжа паміж Захадам і Усходам пралягае якраз тут. Тут і не магла не нарадзіцца плынь, роля якой нават не настолькі буферная, колькі самавызначальная: у сярэдзіне вякі беларуская дзяржаўнасць і беларуская культура была запатрабавана часам, мелася неабходнасць у рэлігійным падмурку. Дзеля таго, каб наступ з Усходу ці Захаду не паглынуў Беларусь поўнасцю.

І ў тым, што як этнас беларусы не зніклі пад націскам суседзяў, есць вялікая заслуга грэка-каталіцкай царквы, якая ўзнікла ў 1596 годзе і праіснавала на нашых землях каля 250 гадоў.

Навейшая гісторыя паказала, што ўніяцтва не забыта, хоць ад яго, умоўна кажучы, і руінаў не засталося. Каля дзесяці гадоў назад на землях незалежнай Беларусі сталі ўзнаўляцца парафіі грэка-каталіцкай уніяцкай царквы...

Мы размаўляем са святаром, душпастырам для грэка-каталікоў Брэсцкай вобласці Ігарам Кандрацьевым.

**— Айцец Ігар, скажыце некалькі слоў аб верніках грэка-каталіцкай царквы раёна, рэгіёна, вобласці...**

— Наша Івацэвіцкая царква носіць назву ў гонар жыровіцкай іконы Маці Божай і аб'ядноўвае яна не адзін дзесятак людзей.

Што тычыцца межаў вобласці, то грэка-каталіцкая царква мае свае парафіі, натуральна, у Брэсце, Баранавічах, Пінску, Бярозе. У вобласці есць некалькі населеных пунктаў, дзе таксама існуе пэўны круг нашых вернікаў — у Косаве, Баброўічах, Таракані (Іванаўскі раён)...

**— Скажыце, калі ласка, якое адрозненне паміж праваслаўем, каталіцызмам і грэка-каталіцызмам?**

— Мы аб'яднаны ідэяй служэння Богу — і толькі. Розніца ў тым, што мы не з'яўляемся, так бы мовіць, афіцыйнай рэлігіяй, якой зараз з'яўляецца тое ж праваслаўе. Выраз нашага прэзідэнта, што ён — праваслаўны атэіст, цудоўнае сведчанне таго, што афіцыйная рэлігія ўлады — волат на гліняных нагах, яна мацуецца не на духоўным, унутраным яднанні, а на знешнім...

**— Ці есць шанс у грэка-католікоў стаць асноўнай рэлігіяй беларусаў?**

— Канешне. Гэты шанс заўжды ёсць, пакуль ёсць магчымасць даць зразумець беларусу, што ягонае веравызначэнне азначае і ягонае культурнае і этнічнае аблічча. З другога боку, няма сэнсу баяцца таго, што мы — халіфы на час. Пакуль існуе Беларусь, будуць людзі, для якіх панятце роднае, нашае, беларускае — не самыя апошнія панятцці...

### “АДКРЫЙ СВАЁ СЭРЦА: ТЫ НЕ АДЗІН”

Наша размова працягваецца з Вячаславам Гарчаковым, старшынёй Івацэвіцкай парафіяльнай рады.

**— Вячаслаў, як усё пачыналася для Вас асабіста?**

— Для мяне заўжды не на апошнім месцы стаяла тое, якая наша гісторыя, культура. І калі паўстала пытанне аб тым, як звяртацца да Бога, то я не мог пайсці ў праваслаўную ці каталіцкую царкву, бо ведаў тое, якая рэлігія сапраўды родная, беларуская.

Немагчыма абмінуць гэты гістарычны пласт. Дарэчы, некаторыя з праваслаўных цэркваў, якія ёсць на сённяшні момант у нашым раёне — у Альбе, Быцені, іншых месцах, — пабудаваны грэка-католікамі, уніятамі, а праваслаўнымі — захоплены пасля.

Усе гэта немагчыма не ўсведамляць.

**— Вячаслаў, які сацыяльны і ўзроставы статус людзей, якія звярнуліся да ўніяцтва?**

— Ёсць і маладыя, ёсць і пенсіянеры. Па суботах у нас працуе тыднёвая катэхізісная школа для дзяцей 5—7 гадоў (створаны клас), якія знаёмяцца з Бібліяй, з Царквой нашай.

**— Якія праводзяцца мерапрыемствы?**

— На працягу года праводзім розныя сустрэчы і пілігрымкі (вандроўкі ў святыя месцы) — у Польшчу, на Украіну. Для дзяцей ствараем летнікі (лагеры), нашы дзеці ўваходзяць у скаўтскі клуб (члены FSE — федэрацыі скаўтаў Еўропы). Летнікі праводзім і для дарослых. Так, у 2001 годзе падобныя летнікі, дарэчы, былі ў нас на возеры Свір, што каля Нарачы.

**— Хутка Каляды...**

— Так, так. Спяшаюся павіншаваць усіх людзей з гэтым вялікім святам — Нараджэннем Хрыстовым. Пажадаць хачу ўсім спакойнага, заможнага жыцця, шчасця.

Дарэчы, 22 снежня, у суботу, у Івацэвічах пройдуць перадкалядныя рэкалекцыі (кульмінацыйны момант духоўнай падрыхтоўкі да свята). Пачатак у 13.30. Сярод мерапрыемстваў — лекцыі, набажэнства, аўхарыстыя (абрад прычашчэння, царкоўнае таінства). Рэкалекцыяніст — айцец Пахом (манастыр студытаў).

Далучайцеся!

**Падрыхтаваў
Аляксандр ГОРБАЧ.**



Айцец Ігар падчас богаслужэння.



Вучні тыднёвай катэхізіснай школы і іх настаўнікі.

# Станаўленне і існаванне грэка-каталіцкай царквы

## Гістарычная даведка

**На тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага заняпад царкоўнага жыцця ў XVI стагоддзі прывёў да таго, што не толькі беларуская знаць, але і цэлыя вёскі сталі пераходзіць у каталіцтва. Праваслаўе ў гэтых вобласцях амаль нічога не рабіла для адукацыі і станаўлення народа. Рымская ж царква адкрывала школы, арганізоўвала місіянерскую дзейнасць.**

**Людзі, пераходзячы ў каталіцызм, мянялі не толькі абрад, але і нацыянальнасць. У выніку беларускаму народу пагражалі поўная дэградацыя, выраджэнне і апалячванне.**

Усё гэта не магло не турбаваць цвярозадумную частку праваслаўнага духавенства. На першым Брэсцкім саборы (чэрвень 1595 г.) з гэтага становішча быў знойдзены толькі адзін выхад — Унія з рымска-каталіцкай царквы, якая павінна была даць не толькі палітычныя прывілеі праваслаўнаму насельніцтву Рэчы Паспалітай, але і ўдыхнуць новыя сілы ў праваслаўную царкву. Сабор пасылае ў Рым епіскапа Уладзімірскага і Брэсцкага Іпація Пацэя і патрыяршага экзарха Кіеўскай мітраполіі, архіепіскапа Луцкага Кірыла Цярлецкага. Цераз тры дні пасля прыбыцця ў апостальскую сталіцу яны былі прыняты Папай КліментамVIII. 21 снежня 1595 года ў Рыме адбылося ўрачыстае завяршэнне Уніі.

Пасля вуснага і пісьмовага паведамлення аб злучэнні царквы пасла прачыталі сімвал веры і прынеслі прысягу на Біблії. Папа Клімент VIII напісаў пісьмо каралю Сігізмунду III з просьбай садзейнічаць Уніяцкай царкве і духавенству.

Пасля атрымання афіцыйных дакументаў ад Папы і ад караля, Уніяцкім іерархам заставалася толькі падпісаць Унію і гэтым пакласці пачатак існаванню ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЙ, УНІЯЦКАЙ царкве.

●

...У пачатку кастрычніка 1596 года Брэст напамінаў сталіцу падчас свята — горад быў чыста вымыты і ўрачыста ўпрыгожаны, на бурных мнагалюдных вуліцах можна было ўбачыць самых высокіх царкоўных іерархаў самых розных канфесій Рэчы Паспалітай, вялікіх дзяржаўных дзеячаў Княства (прыехаў сам канцлер Леў Сапега).

Асноўнае дзеянне праходзіла ў галоўным храме епіскапа Уладзімірскага і Брэсцкага Іпація Пацэя — у храме святога Мікалая. Сюды на царкоўны сінод, для вялікай падзеі — злучэння Праваслаўнай і Каталіцкай царквы і стварэння Апостальскай Уніяцкай Царквы — з'ехаліся: мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсёй Русі Міхаіл Рагоза, архіепіскап Полацкі, Віцебскі і Мсціслаўскі Рыгор Герман, епіскап Луцкі і Астрожскі Кірыл Цярлецкі, епіскап Холмскі і Бельскі Дзяніс Збруйскі, епіскап Пінскі і Тураўскі Іёна Гогаль, архімандрыт Браслаўскі Багдан Годкінскі і многія іншыя праваслаўныя свяшчэннікі. З боку каталікоў — пасла Папы Клімента VIII архіепіскап Львоўскі Ян Зміцер Салікоўскі, епіскап Луцкі Бернард Мацеёўскі і Холмскі Станіслаў Гамаліцкі, а таксама чатыры іезуіта — прадстаўнікі караля Сігізмунда.

8 кастрычніка 1596 года мітрапалітам Кіеўскім і Сінодам епіскапаў, святароў была прынята Саборная грамата аб уступленні праваслаўных іерархаў у Унію, з якой бярэ пачатак Уніяцкая царква.

●

Ужо ў 1617 годзе ў саставе Уніяцкай царквы налічваліся пяць манастыроў: у Вільне, Быцені, Жыровічах, Мінску і Навагрудку, кароль аддае ўніятам манастыр у Гродне.

Расла Уніяцкая Царква, у якой беларускі народ бачыў сваю абаронцу ад польскага ўціску. Пад канец XVIII стагоддзя ўніяты складалі не меней трох чвэрцяў насельніцтва. Уніяцтва становіцца галоўнай рэлігіяй на беларускай тэрыторыі. На 1761 год (год уступлення на прастол Кацярыны II) у праваслаўных на ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай было 30 царквей, а ўніяцкіх — дзесяткі тысяч.

А ў 1772 годзе наступіў першы падзел Рэчы Паспалітай. Кацярына II абяцала, што з боку Расіі для ўніятаў не будзе ніякага ўціску. Але ў 1780 яна выдала ўказ, паводле якога ўсе ўніяты павінны былі перайсці ці ў праваслаўе, ці ў каталіцызм, а на месца памерлых уніяцкіх святароў ставіць толькі праваслаўных. Усе турмы былі перапоўнены ўніяцкімі свяшчэннікамі і манахамі. За час праўлення Кацярыны II было насільна пераведзена ў праваслаўе больш за тры мільёны ўніятаў.

Наследнік Кацярыны II Павел I даў Уніі волю. Па запатрабаванню Рымскага Папы Пія VI на свае кафедры былі вернуты некаторыя з уніяцкіх епіскапаў. Уніятам былі вернуты 8 манастыроў і дзве епархіі — Луцкая і Брэсцкая. Увогуле, за нядоўгае царстванне Паўла I да Святога Царкоўнага Адзінства вярнуліся 1388 прыходаў, 90 манастыроў, 1,5 мільёна вернікаў. Пры гэтым не будзем забываць, што Сінод і яго оберпракурор працягвалі прымушаць уніятаў да прыняцця праваслаўя.

1825 год — год пачатку кіравання імперыяй страшнага ворага Уніі Мікалая I. Быў узяты курс на русіфікацыю і праваславізацыю народаў. Да 1832 года былі знішчаны ўсе уніяцкія манастыры. Уніяцкіх святароў у кандалах адпраўляюць у Сібір. Так, Унія рукамі расійскіх улад і арміі была задушана на тэрыторыі Беларусі.

... Больш за 150 гадоў пасля, на пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя на Беларусі сталі ўзнаўляцца грэка-каталіцкія цэрквы.

**Свяшчэннік
Пётр КУЗЬМІЧОЎ.**

